Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3 — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII. ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 8 (130) | 23 ліпеня 1932 г. | № 8 (130)

## ЗЬМЕСТ



---

## Пастанова Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР.

### 24. Пра дапаўненьне інструкцыі пра ўжываньне лімітаў кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва на 1932 г.

Дзяржаўная Плянавая Камісія пры СНК БССР пастанаўляе дапоўніць сваю інструкцыю за 7 красавіка 1932 г. пра ўжываньне лімітаў кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва на 1932 г (Бюл. НК і ЦУ БССР 1932 г. № 5, паст. 16) наступнаю ўвагаю да п. „б“ параграфу 2-га, разьдзелу „А. Асноўныя ліміты“:

„Увага. У тых выпадках, калі нарыхтоўку будматарыялаў трэба рабіць у радыусе звыш 5 *клм.*, асноўны ліміт павялічваецца паводле ўмовы, заключанай паміж будуючымі і будаўнічымі організацыямі“.

Нам. Старшыні Дзяржпляну БССР **Пятровіч**.

Начальнік Будсэктару Дзяржпляну БССР **Штыфман**.

28 чэрвеня 1932 г.
№ 4.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі і Калгасцэнтру БССР.

### 25. Пра ўвядзеньне ў дзеяньне нармальнага статуту для пажарных дружын у калгасах.

*Усім раённым аддзелам камунальнай гаспадаркі, кіраўніцтвам пажарнай аховы г. г. Менску, Гомелю і Віцебску і райкалгассаюзам.*

1. Для пасьпяховай барацьбы з пажарамі ў калгасах шляхам правядзеньня папярэджваючых супроцьпажарных мерапрыемстваў і актыўнай абароны ад агню, у кожным калгасе павінна быць арганізавана пажарная дружына на аснове „Нармальнага статуту для пажарных дружын у калгасах“, які публікуецца разам з гэтым.

2. Нармальны статут з гэтага моманту пашыраецца на ўсе пажарныя арганізацыі, якія існуюць у калгасах, знаходзячыхся на тэрыторыі БССР. Гэтыя арганізацыі павінны на працягу 3-х месяцаў перайсьці на „Нармальны Статут для пажарных дружын у калгасах“.

3. Арганізацыя пажарных дружын у калгасах утвараецца па плянах, якія распрацоўваюцца райкамунаддзеламі разам з райкалгассаюзамі, і зацьвярджаюцца прэзыдыумамі РВК.

4. Калі ў адным насельным пункце існуе некалькі калгасаў, то па пастанове агульнага (дэлегацкага) сходу членаў калгасаў можа быць арганізавана агульная дружына, якая абслугоўвае ўсе калгасы данага насельнага пункту.

5. Пры наяўнасьці ў насельным пункце побач з калгасам значнай колькасьці аднаасобных гаспадарак можа быць арганізавана агульнае дабраахвотнае пажарнае т—ва на аснове нармальнага статуту зацьверджанага 11|X-1931 г. (Бюл. СНК БССР 1931 г., № 26), прычым пажаррая дружына гэтага таварыства павінна мець сваю асноўную базу ў калгасе, альбо блізка ад асноўных матарыяльных рэсурсаў калгасу, у залежнасьці ад мясцовых умоў.

6. Пры арганізацыі аб'яднаных пажарных дружын у калгасах, раён выезда дружыны павінен быць ня больш 3—4 клм. у залежнасьці ад мясцовых умоў.

7. Унутраная пабудова і дзейнасьць пажарных дружын у калгасах ажыцьцяўляецца паводле інструкцыі „Аб унутранай арганізацыі і дзейнасьці дабравольных пажарных дружын“ (Бюл. СНК БССР 1931 г. № 21).

8. З выданьнем гэтага абежніку лічыць зьмененым п. 1 пастановы НККГ за 5/XII-1931 г. „Пра ўвядзеньне ў дзеяньне новых нармальных статутаў для добравольных пажарных арганізацый“ (Бюл. СНК БССР 1931 г. № 21) у тым сэнсе, што нармальны статут дабравольнага паж. т—ва на пажарныя арганізацыі калгасаў не пашыраецца, для чаго у гэтым пункце слова „калгасныя“ выкрэсьліць і пасьля слова „сельскія“ дадаць „(аднасобнага сэктару)“.

Народны Камісар Камун. Гасп. БССР **Аксючыц.**
Нам. Старшыні Калгасцэнтру БССР **Залескі.**

15 ліпеня 1932 г. № 5/171.

**Дадатак**

# Нармальны статут

## для добравольных пажарных дружын у калгасах

### 1. Задачы, абавязкі і правы дружыны.

1. У мэтах шырокага ўцягненьня калгасьнікаў у справу папярэджваньня пажараў і актыўнай барацьбы з імі, пры калгасе арганізуецца пажарная дружына, якая дзейнічае на аснове гэтага статуту.

2. У задачы дружыны уваходзіць:

а) непасрэдная барацьба з пажарамі і ахова калгасных складаў і хлеба ад пажараў на абслугоўваемай тэрыторыі;

б) падача арганізаванай дапамогі пры стыхійных бядотах, як паводка, абвал, гураган і інш.;

в) нагляд за ажыцьцяўленьнем папераджальных супроцьпажарных мерапрыемстваў у калгасных фэрмах, прадпрыемствах, складах, на новым будаўніцтве і ў мясцох грамадзкага прызначэньня (клюбы, кіно і інш.);

г) вывучэньне ахоўваемага раёну з пункту погляду пажарнай небясьпекі;

д) удзел у работах па пляніроўцы і перапляніроўцы калгасаў і насельных пунктаў, а таксама распрацоўка практычных супроцьпажарных і супроцьстыхійных мерапрыемстваў у абслугоўваемым раёне;

е) забясьпечаньне вадой на выпадак пажару шляхам пабудовы і ўтрыманьня ў спраўнасьці прудоў, студняў і пад'ездаў да вадазбораў;

ж) пабудова пажарных дэпо і папаўненьне пажарнага інвэнтару і абсталяваньня;

з) вывучэньне пажарнай тэхнікі ў адносінах папярэджаньня і тушэньня пажараў, азнаямленьне насельніцтва з мерапрыемствамі па папярэджаньню і барацьбе з пажарамі;

і) арганізацыя і актыўны ўдзел у масавых супроцьпажарных кампаніях;

к) садзейнічаньне і ўдзел у дарожным будаўніцтве, практычнае азнаямленьне з пажарнай аўто-мото-мэханізацыяй шляхам адпаведнай увязкі сваёй работы з ячэйкамі Аўтадору;

л) удзел у арганізацыі і правядзеньні кампаніі па дрэванасаджэньню, а таксама па ахове існуючых дрэванасаджэньняў;

м) падрыхтоўка да барацьбы з пажарамі ва ўмовах абароны краіны шляхам узгадненьня сваёй працы з ячэйкамі Асоавіяхіму.

3. Скарыстаньне пажарных дружын і іх тэхнічнага абсталяваньня і снараджэньня, а таксама ўскладаньне на дружыны работ, якія супярэчаць мэтам гэтага статуту, забараняецца і караецца па закону (пастан. СПА за 9/V-1921 г. З. З. 1921 г. № 39, арт. 208; абежнік НКЮ № 30 за 28/IV-1932 г.—Бюл. НК і ЦУ БССР 1932 г. № 8).

4. Пажарная дружына мае права мець сьцяг адзінага для пажарных арганізацый БССР узору.

### II. Склад дружыны і абавязкі яе членаў.

5. Колькасны склад дружыны вызначаецца праўленьнем калгасу па узгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду, але павінен быць ня менш 15 чалавек.

6. Членамі пажарнай дружыны могуць быць калгасьнікі не маладзей 18 год, якія ня маюць фізычных недахопаў, перашкаджаючых займацца пажарнаю справаю.

7. Прыём у члены пажарнай дружыны ўтвараецца праўленьнем калгасу. Заявы аб паступленьні ў дружыну падаюцца ў праўленьне калгасу праз начальніка дружыны.

8. Члены пажарнай дружыны выбываюць з яе складу:

а) па ўласным жаданьні,

б)па пастанове праўленьня калгасу па прадстаўленьні начальніка дружыны.

У першым выпадку заява аб уходзе з дружыны павінна быць пададзена начальніку дружыны не пазьней як за 10 дзён да дня выбыцьця.

9. Усе члены дружыны абавязаны:

а) па сыгналу трывогі безадкладна зьяўляцца да месца збора, альбо пажару для актыўнага ўдзелу ў тушэньні пажару ці практычных занятках;

б) бяспрэчна выконваць усе распараджэньні па службе сваіх непасрэдных начальнікаў;

в) сачыць за цэласьцю і спраўнасьцю даручанага пажарнага інвэнтару і снараджэньня і аб усіх заўважаных недахопах безадкладна паведамляць свайму начальніку;

г) вывучаць і ведаць статут і ўсе інстуркцыі, якія датычацца дружыны;

д) наглядаць за захаваньнем членамі калгасу ўсіх устаноўленых правіл супроцьпажарнай бясьпечнасьці, дакладваючы аб усіх заўважаных парушэньнях начальніку дружыны.

### III. Кіраўніцтва і ўтрыманьне дружыны.

10. Агульная адказнасьць за пажарную ахову ў калгасе ўскладаецца на аднаго з членаў праўленьня, які вылучаецца апошнім. Непасрэднае кіраваньне пажарнай дружынай і адказнасьць за становішча пажарнай бясьпечнасьці на тэрыторыі ахоўваемага дружынай раёну ўскладаецца на начальніка дружыны.

11. Начальнік дружыны абіраецца агульным сходам членаў дружыны і зацьвярджаецца праўленьнем калгасу па ўзгадненьні з мясцовым органам дзярж. пажарнага нагляду. Начальнік дружыны па ўзгадненьні з праўленьнем калгасу назначае начальнікаў атрадаў.

12. Агульныя распараджэньні па дружыне аддаюцца начальнікам дружыны праз загады, якія зацьвярджаюцца старшынёю альбо намесьнікам старшыні праўленьня калгасу.

13. Справаздачнасьць і справаводзтва па дружыне вядзецца начальнікам дружыны па ўстаноўленых у калгасе формах. Захаваньне

сродкаў дружыны і іх выдаткаваньне ўтвараецца ў агульным парадку, які ўстаноўлен у калгасе.

Калі дружына зьяўляецца аб'яднанай для 2-х альбо некалькіх калгасаў, то для рэгуляваньня пытаньняў выдаткаваньня сродкаў арганізуецца гаспадарчая камісія з прадстоўнікоў усіх удзельнічаючых ва ўтрыманьні дружыны калгасаў.

14. Уся канцылярская праца па дружыне выконваецца апаратам праўленьня калгасу.

15. Выдаткі па утрыманьні дружыны адносяцца за рахунак калгасу, пры якім яна арганізавана, альбо некалькіх калгасаў, калі дружына аб'яднаная, а таксама за рахунак бюджэту сельскага савету і іншых асыгнаваньняў з спэцыяльных сродкаў.

16. Дружыне павінна быць прадастаўлена:

а) спэцыяльнае памяшканьне з апалам і асьвятленьнем для хаваньня пажарнага інвэнтару і абсталяваньня, для дзяжурстваў і заняткаў;

б) пажарны інвэнтар, снараджэньне і абсталяваньне ў колькасьці, якая ўстанаўляецца па ўзгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

17. За дзяжурствы (знаходжаньне ў каравуле) членам пажарнай дружыны налічваюцца працадні. За працу на пажарах працадні не налічваюцца.

18. За працу начальніка дружыны ўстанаўляецца пэўная колькасьць працадзён у залежнасьці ад разьмера і характару абслугоўваемых гаспадарак. Праца начальніка дружыны адносіцца да групы кваліфікаваных работ. Колькасьць працадзён можа праўленьнем калгасу павышацца альбо паніжацца ў залежнасьці ад пастаноўкі і арганізаванасьці пажарнай аховы.

### ІУ. Меры заахвочваньня спагнаньня.

19. За актыўную працу і за асобныя заслугі ў справе ўзмацненьня і разьвіцьця пажарнай аховы члены дружыны могуць быць узнагароджаны: а) пахвальнымі отзывамі, б) жэтонамі, в) грашовымі альбо рэчавымі выдачамі, г) агульнымі ўзнагародамі, якія ўстаноўлены законам.

Аб узнагародах па п. „г" хадайніцтвы падаюцца праз мясцовы орган дзяржаўнага пажарнага нагляду.

Пра кожную ўзнагароду павінна быць вынесена пастанова праўленьне калгасу.

20. За невыкананьне распараджэньня начальніка пры выкананьні пажарнай службы і за парушэньне ўстаноўленага парадку гэтай службы члены дружыны падлягаюць наступным спагнаньням: а) папярэджаньне, б) вымова і в) выключэньне з дружыны.

Спагнаньні пад літ. „а" і „б" накладаюцца начальнікам дружыны і аддаюцца ў загад па дружыне.

Выключэньне са складу дружыны (па літ. „в") робіцца праўленьнем калгасу.

**V. Парадак рэгістрацыі і ліквідацыі дружыны.**

21. Праўленьне калгасу, у гаспадарцы якога арганізуецца пажарная дружына, абавязана на працягу дэкаднага тэрміну паведаміць аб гэтым сельсавету, які выдае даведку аб рэгістрацыі дружыны.

Не пазьней 2-х дэкад пасьля арганізацыі дружыны, Начальнік яе паведамляе аб рэгістрацыі дружыны мясцоваму органу дзяржаўнага пажарнага нагляду (райкамунаддзелу) з прадстаўленьнем зьвестак аб колькасным складзе дружыны, яе абсталяваньні і раёне выезду.

22. Ліквідацыя дружыны можа быць утворана, у выпадку перагляду існуючай плянавай сеці пажарных арганізацый, па пастанове сельсавету.

23. Уся маемасьць дружыны належыць калгасу, а ў аб'яднаных дружынах—калгасам-удзельнікам у адпаведнасьці з разьмерам іх удзелу.

У выпадку ліквідацыі дружыны пажарная маемасьць апошняй пераходзіць у распараджэньне сельсавету і перадаецца ім па ўзгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду ў нова-арганізаваную пажарную дружыну з зваротам калгасу-ўласьніку гэтай маемасьці—яе кошту з улікам амартызацыі.

Народны Камісар Камунальнае
Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Нам. Старшыні Калгасцэнтру БССР **Залескі.**

15 ліпеня 1932 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

**26. Пра нагляд за недапушчальнасьцю скарыстаньня коняй і маемасьці пажарных абозаў на мэты, ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы.**

*Усім вуч. і гар. пракурорам. Копія—Наркамгасу.*

Чыннае законадаўства катэгарычна забараняе ўсякае скарыстаньне пажарных абозаў на мэты, ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы (пастанова СПА за 9|V-21 г. „Аб мерах да захаваньня пажарных абозаў і ўтрыманьня іх у баявой гатоўнасьці"—Зб. Зак. Раб.-Сялянскага Ураду за 1921 г. № 39, арт. 208, і абежнік НКУС БССР за 24|X-1930 г. № 83—Бюл. СНК БССР за 1930 г. № 22, стар. 29—30).

Ня гледзячы на гэта, да гэтага часу мае месца скарыстоўваньне некаторымі гарсаветамі і РВК пажарных абозаў на мэты, ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы (Рэчыцкі, Мозырскі і Бабруйскі гарсаветы і інш.). чым паслабляецца іх баявая гатоўнасьць і плянамернасьць барацьбы з агнём.

У зьвязку з паказаным НКЮ БССР прапануе:

1. Усім гарадзкім і вучастковым пракурорам устанавіць сталы нагляд за недапушчальнасьцю скарыстаньня коняй і маемасьці пажарных абозаў на мэты, ня маючыя дачыненьня да пажарнай аховы.

2. Вінаватых у парушэньні гэтага прыцягваць да крымінальнай адказнасьці паводле арт. 197 Крымінальнага кодэксу БССР.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі **Ляўкоў**.

28 чэрвеня 1932 г.
№ 30.



Адказны Рэдактар І. **Фрыдман**.

Друкарня, Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Зак. № 946. Тыраж 3.000.